ПУЛЬС

## За зборам журавін сочаць спецбрыгады

З 5 верасня ў большасці раёнаў Брэсцкай вобласці афіцыйна дазволены збор журавін. Вынятак — Ганцавіцкі раён, дзе збор гэтай лекавай ягады можна будзе весці толькі з 15 верасня.

Гэта звязана з тым, што ў раёне знаходзяцца два журавінныя заказнікі рэспубліканскага значэння, якія вымагаюць асабліва ашчаднага стаўлення. Каб не нанесці ім вялікай шкоды, і было вырашана перанесці пачатак збору ягады на больш позні тэрмін.

Хоць рашэнне ганцавіцкіх улад было абнародавана ў мясцовых СМІ, у раёне палічылі за неабходнае пракантраляваць ход яго выканання — дзеля гэтага створаны чатыры адмысловыя рэйдавыя брыгады. "У іх склад увайшлі нашы эколагі, прадстаўнікі міліцыі і райспажыўсаюза, — паведаміў кіраўнік раённага прыродаахоўнага ведамства. — Цяпер кожны дзень рэйдавыя брыгады выязджаюць да журавінных балот і дзяжураць на асноўных шляхах да журавіннікаў. Некалькі парушальнікаў тэрмінаў збору ягады ўжо былі затрыманы".

Парушальнікам пагражае адміністрацыйная адказнасць — штраф ад 1 да 10 базавых велічыняў (19.000—190.000 рублёў). Калі ж у якасці парушальніка выступае арганізацыя, сума штрафу павялічваецца да 50 базавых велічыняў.

## Санкцыі гандлярам

Несуцяшальнымі аказаліся вынікі рэйдавай праверкі рынкаў Брэсцкай вобласці, якую правялі абласныя санітарныя службы.

Як паведаміла загадчыца санітарна-гігіенічнага аддзела абласнога Цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Таццяна Корчык, на выкананне санітарных патрабаванняў было праверана 55 рынкаў, 719 юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў, у якіх абследавалі 877 гандлёвых месцаў. Парушэнні былі выяўлены ў 233 гандляроў прадуктамі харчавання.

"У ліку асноўных парушэнняў — адсутнасць неабходных дакументаў, якія пацвярджаюць якасць і бяспечнасць прадуктаў, што было выяўлена ў 90 выпадках, а таксама парушэнні ўмоў захоўвання і рэалізацыі тавару (60 выпадкаў), продаж пратэрмінаванай прадукцыі (11) і іншыя", — паведаміла Т.Корчык.

Санкцыі адміністрацыйнага ўздзеяння правяральнікі прымянілі да 186 парушальнікаў санітарных правілаў. Агульны памер штрафу складае 15,8 мільёна рублёў. Апроч таго, работа 17 аб'ектаў рознічнага гандлю на рынках вобласці рашэннем галоўных дзяржаўных санітарных урачоў адпаведных рэгіёнаў прыпынена.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## У верасні пройдуць фінальныя спаборніцтвы вадзіцеляў аўтатранспарту

З 16 па 19 верасня ў Беларусі пройдуць фінальныя спаборніцтвы па прафесійным майстэрстве вадзіцеляў аўтамабільных транспартных сродкаў. Спаборнічаць у сваім майстэрстве на трасе "Баравая" пад Мінскам вадзіцелі будуць на марках МАЗ-104, МАЗ-5551, ГАЗ-3202, ГАЗ-3110 і МАЗ-5432. Ініцыятарам правядзення гэтага конкурсу ўжо не першы год выступае Міністэрства транспарту і камунікацый.

Канкурсантам трэба будзе не толькі паказаць вышэйшы клас кіравання, але таксама прадэманстраваць выключныя веды Правілаў дарожнага руху. Пераможцаў чакаюць каштоўныя прызы.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Пачаўся «працоўны семестр»

Больш за 6 тысяч студэнтаў і навучэнцаў вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў Віцебскай вобласці будуць накіраваны на сельскагаспадарчыя работы паводле рашэння аблвыканкама.

Працоўны дэсант студэнтаў і навучэнцаў пачаўся 3 верасня і будзе доўжыцца месяц. Гарадскім і раённым выканаўчым камітэтам таксама дазволена тэрмінам на два тыдні прыцягваць на сельгасработы вучняў старэйшых класаў базавых і сярэдніх школ.

У вобласці створаны штаб для аператыўнай арганізацыі работы і забеспячэння нармальных жыллёва-бытавых умоў, харчавання студэнтаў і навучэнцаў. Яго ўзначаліў намеснік старшыні аблвыканкама Пётр Южык.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Паштовы канверт з арыгінальнай маркай

У паштовае абарачэнне ўведзены паштовы канверт з арыгінальнай маркай, прысвечаны Дню беларускага пісьменства ў Тураве.

Як паведамілі БелаПАН у выдавецкім цэнтры "Марка" рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Белпошта", мастак Мікалай Рыжы адлюстраваў на марцы від прыстані Турава XIX стагоддзя на рацэ Прыпяць, а на ілюстрацыі — беларускага царкоўнага дзеяча, пісьменніка і багаслова XII стагоддзя Кірылу Тураўскага на фоне Тураўскага Евангелля XII стагоддзя і старадаўняга Турава — цэнтра аднайменнага княства.

**Марат ГАРАВЫ.**

# Гладиолусы для депутата

***2 сентября депутат Палаты представителей Сергей Скребец в Лиде отчитывался перед своими избирателями***

По этому случаю Скребцу выделили актовый зал Дома культуры, рассчитанный на триста мест. Но людей на встречу пришло совсем немного — около шестидесяти человек. И это при том, что отчет Скребца проанонсировала даже местная пресса. Правда, несколько своеобразно.

*"Информацию о встрече Сергея Николаевича с избирателями поместили в разделе, где обычно печатаются объявления и различные поздравления,* — рассказывает помощник Скребца. — *По городу также было развешено много объявлений, однако буквально через несколько часов их посрывали..."*

Сергея Скребца не смутило, что на встречу с ним пришло так мало избирателей. Он считает, что людей запугали. Его мнение разделяет и бывший председатель гродненской областной организации Либерально-демократической партии **Сергей Коваль,** который также намерен стать депутатом Палаты представителей.

*"Мы общаемся с людьми, знаем, какую идеологическую работу проводят с ними на предприятиях"*, — говорит Коваль.

Стоит отметить, что встречу Скребца с избирателями фиксировали аж две камеры. Одна — бэтэшная, а другая, судя по всему, кагэбэшная. Объектив последней тщательно фиксировал лица всех присутствующих...

Сергей Скребец не любит лести и комплиментов и, наверное, поэтому в своем вступительном слове больше говорил о том, что ему не удалось сделать для жителей Лиды.

*"Из-за отсутствия средств не построены ночлеги для бездомных и лиц, вернувшихся из мест заключения, не организован клуб для молодежи,* — подводит итоги Скребец. — *Одной из главных проблем лидчан остается трудоустройство. Только в центре занятости состоит на учете более 2600 человек, реальная безработица значительно выше. Нельзя назвать работой ситуацию, когда люди трудятся по два-три дня в месяц... Растет проблема с трудоустройством молодежи. Не решен жилищный вопрос. В прошлом году молодые семьи получили 136 квартир. В этом году еще 110 молодых семей получат жилье. Но этого недостаточно. Многие лидчане, живущие в частных и старых домах, не имеют газа, жилой фонд требует капитального ремонта..."*

*"Интересно, а что же Вам тогда удалось?* — тотчас же последовала реплика из зала. — *И вообще, насколько реальны, например, Ваши обещания насчет реконструкции Лидского замка?"*

Скребец терпеливо объяснял, что решение многих проблем возможно, но оно требует напряженной работы не только от него самого, но и от парламента, главы государства, Совета министров.

*"Я пытаюсь сделать все, что в моих силах,* — говорит Скребец. — *А что касается замка, то в свое время мы собрали десять тысяч подписей и обратились в Совмин с просьбой выделить деньги на его реконструкцию. Нам, естественно, сказали, что денег нет. Я предложил создать акционерное общество "Лидский замок", где акционерами будут сами горожане. Под негосударственную форму собственности сегодня легче привлечь инвестиции. Мы планировали сделать из Лидского замка привлекательнейший центр туризма. Однако мой проект был отклонен чиновниками лидского горисполкома... За последние годы создавалось много различных фондов, собирающих деньги на реставрацию замка. Спрашивают, сколько денег я лично перечислил на счет того или иного фонда. Отвечаю честно: ни копейки. Потому что сомневаюсь, что деньги пойдут по назначению..."*



*Отойдя от голодовки в знак протеста против антидемократичности избирательного законодательства, Сергей Скребец рванул за новым депутатским мандатом.*

Как известно, Скребец намерен снова идти в депутаты. Один ветеран поинтересовался: мол, правда ли, что члены инициативной группы Скребца платят по триста рублей тем избирателям, которые соглашаются поставить за него свою подпись?

*"Если бы ко мне подошли и сказали: "Поставь свою подпись за депутата, а я тебе за это триста рублей дам", я бы, честное слово, обиделся. Если бы тридцать долларов предлагали — тогда другое дело. Даже обидно, что про меня так говорят. Это слухи, не более того"*, — ответил Сергей Николаевич.

Другой ветеран возмутился, что Скребец входит в состав известной депутатской группы "Республика": *"Может быть, это и полезная группа, но большинство ветеранов отрицательно к ней относятся. И к генералу Фролову, кстати, тоже, хотя лично я с ним не знаком".*

Отвечая на этот пассаж, Сергей Николаевич заявил следующее: *"Я тоже хочу, чтобы в стране был порядок, переживаю за свою страну, свой избирательный округ. Хочу, чтобы люди вовремя получали зарплату, чтобы законодательная база у нас была нормальная, чтобы работали предприятия. В этом смысле я поддерживаю политику Александра Григорьевича. В чем-то, конечно, я с ним категорически не согласен. Но ведь истина рождается в споре..."* — убеждал Скребец.

Кстати, генерал **Валерий Фролов**, присутствовавший в зале, на улице весьма душевно пообщался с "критически настроенными" ветеранами. После недолгого разговора простились они почти друзьями...

Вопросов Сергею Скребцу задавали много. Спрашивали, почему белорусы должны платить огромные деньги за билеты на концерты российских звезд, которые выступают под фонограмму; почему никого не волнует судьба домов офицерского состава, где протекают крыши; почему на местном рынке продают российские тапки и стоят они в несколько раз дешевле тех, которые выпускает местная фабрика... Однако актовый зал был предоставлен всего на час, и депутату на некоторые вопросы пришлось отвечать уже на ступеньках Дома культуры.

...Пенсионерка **Люциана Михейчик** подарила Скребцу букет гладиолусов.

*"Мой муж 44 года проработал на "Лидасельмаше",* — рассказывает Люциана Иосифовна. — *Из них 37 — за прессовым станком. Несколько лет назад ему прессом отрубило руку. На заводе дали 50 тысяч помощи, а затем вычли эти деньги из зарплаты. Больше нам никак не помогали. Сергей Николаевич добился того, чтобы мужу регулярно выплачивали компенсацию. Дай Бог ему здоровья! Он уважает бедных людей, помогает им. У меня за стеклом в серванте стоит фотография Скребца. Я за него каждый день молюсь..."*

**Марина КОКТЫШ.**
**Фото photo.bymedia.net**

СІТУАЦЫЯ

## Бывайце, непатрэбныя прадпрыемствы!

На Віцебшчыне рэгулярна скарачаецца колькасць прадпрыемстваў, якія выпускаюць прадукты харчавання з айчыннай сыравіны.

Следам за шэрагам раённых хлебазаводаў, што закрыліся, не вытрымаўшы канкурэнцыі з расійскай прадукцыяй і мясцовымі прыватнікамі, пачалі цярпець эканамічную паразу кансервавыя заводы, спецыялізаваныя на перапрацоўцы гародніны. Днямі спыніў сваю дзейнасць нават Віцебскі кансервавы завод, які яшчэ 20 год таму лічыўся далёка не горшым сярод аналагічных прадпрыемстваў вобласці.

Праўда, не быў ён тады і сярод лепшых. Высокай якасцю сваіх кансерваў вызначаўся тады завод у Глыбокім, які нават за мяжу пасылаў свае далікатэсы — марынаваныя грыбы, клубніцы і чарніцы, працёртыя з цукрам, і цудоўнае журавіннае варэнне. Нягледзячы на таннасць тады свежай гародніны, не застойвалася на паліцах магазінаў і прадукцыя Віцебскага завода.

Сёння на ўваходзе ў кансервавы цэх гэтага прадпрыемства вісіць вялікі замок. Вытворчая адзінка рыхтуецца да ліквідацыі з прычыны сваёй хранічнай стратнасці.

Утварылася парадаксальная сітуацыя. Рыначны кошт гародніны (нават мясцовай) даволі высокі, а пакупнікі адварочваюцца ад гатовых кансерваў, лічачы іх значна горшымі за свае дамашнія "закаткі".

Вытворцы кансерваў сцвярджаюць, што іх прадукцыя ў магазінах каштуе менш, чым выдаткоўваецца на яе вытворчасць, а таму і з'яўляецца стратнай. Пакупнікі, наадварот, упэўнены, што слоікі з тымі ж віцебскімі марынадамі і салатамі надзвычай дарагія і да таго ж нясмачныя. Лепш аддаць час і працу на сваім агародзе і на ўласнай кухні, чым выкідваць 5—6 тысяч рублёў за нязручную трохлітровую ёмістасць з "вечназялёнымі" таматамі, кіслымі, як жыццё.

Такімі і крыху меншымі слоікамі з кансерваванай гароднінай запоўнены паліцы віцебскіх магазінаў. Нікому гэты дарагі і нязручны тавар непатрэбны.

Няма ўзбуджаных чэргаў і ў гандлёвых кропках, дзе прадаецца свежая гародніна. Насельніцтва настальгічна ўздыхае, успамінаючы не такія ўжо далёкія часы, калі проста на вуліцах прадаваліся цудоўныя, невялікія, ярка-чырвоныя балгарскія таматы, спелыя, смачныя і адначасова ўстойлівыя да ўдараў. З тае пары кошт гародніны адносна даходаў нашых грамадзян павысіўся ў тысячы разоў, а якасць стала горшай. "Кусаюцца" і базарныя цэны на гародніну — як прывазную, так і тутэйшую, якая прадаецца даражэй чым заморскія бананы.

Адначасова з перапрацоўшчыкамі гародніны дайшоў да мяжы банкруцтва і Віцебскі "Гарплодагароднінагандаль". Ягоная ліквідацыя — справа бліжэйшага часу.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Асуджаны дырэктар прадпрыемства «Вітпласт»

*Суд Чыгуначнага раёна Віцебска прызнаў вінаватым дырэктара віцебскага унітарнага прадпрыемства "Вітпласт". Ён асуджаны паводле артыкула "Перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў" Крымінальнага кодэкса.*

Звесткі пра супрацьпраўную дзейнасць кіраўніка прадпрыемства Упраўленне КДБ па Віцебскай вобласці атрымала яшчэ летась. Як адзначаецца ў паведамленні прэс-групы УКДБ па Віцебскай вобласці, са жніўня 2002 па студзень 2003 года дырэктар "Вітпласта" наўмысна рэалізоўваў частку асноўных сродкаў прадпрыемства камерцыйным структурам па заніжаным кошце. У выніку прадпрыемству быў нанесены ўрон у асабліва буйным памеры.

Былы кіраўнік прысуджаны да пазбаўлення волі на 3 гады з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму. Ён таксама пазбаўлены права тры гады займаць кіруючыя пасады, звязаныя з распараджэннем маёмасцю. Акрамя таго, суд пастанавіў спагнаць з асуджанага больш як 60 мільёнаў рублёў на карысць прадпрыемства "Вітпласт".

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**



*Дзед Мікалай, якому 94 гады, пасе карову ў закінутым калгасным садзе, што ў вёсцы Хожава Маладзечанскага раёна.*

**Фота photo.bymedia.net**

## Хочаце павучыцца ў Германіі?

**Германская служба акадэмічных абменаў аб'явіла конкурс стыпендый для беларускіх студэнтаў на 2005/2006 навучальны год**

Як паведамілі ў Пасольстве ФРГ у Мінску, Германская служба акадэмічных абменаў (DAAD), што працуе ў Беларусі ўжо 10 гадоў, прапаноўвае стыпендыі па розных кірунках: навукова-даследчыя стыпендыі для аспірантаў і маладых навукоўцаў, стыпендыі паслядыпломнага навучання для выпускнікоў ВНУ ўсіх спецыяльнасцяў, стыпендыі для былых гадавых стыпендыятаў DAAD, стыпендыі для суіскальнікаў творчых спецыяльнасцяў, гадавыя стыпендыі для студэнтаў эканамічных спецыяльнасцяў.

Апрача таго, прапаноўваюцца семестравыя стыпендыі для студэнтаў філолагаў-германістаў, якія вучацца на 3-м або 4-м курсах. Стыпендыяты 4-га курса, якія вучацца на зімовым семестры ў адной з ВНУ Германіі, могуць разам з наведваннем навучальных заняткаў выкарыстоўваць частку часу для падрыхтоўкі дыпломнай работы. Стыпендыя можа быць прапанавана таксама для напісання дыпломнай работы ў адной з ВНУ Германіі, калі гэта будзе належным чынам абгрунтавана кандыдатам. Умовай для гэтага з'яўляецца згода прафесара з нямецкай ВНУ на навуковае кіраўніцтва працай кандыдата.

Прапаноўваюцца таксама летнія універсітэцкія курсы для студэнтаў старэйшых курсаў усіх спецыяльнасцяў. У конкурсе на атрыманне гэтай стыпендыі могуць браць удзел студэнты 2-га, 3-га або 4-га курсаў усіх спецыяльнасцяў, якія вывучаюць нямецкую мову або спецыялізуюцца на вывучэнні Германіі.

Студэнцкія групы могуць браць удзел у азнаямленчых паездках у Германію. Студэнты могуць атрымаць уяўленне пра навуковае і культурнае жыццё Германіі, наведваючы ВНУ і іншыя ўстановы, якія ўяўляюць цікавасць з прафесійнага пункту гледжання.

У рамках праграмы DAAD "Стыпендыі імя Лейбніца" аспіранты і кандыдаты навук змогуць правесці даследаванні ў адным з Інстытутаў імя Лейбніца.

Маладыя дыпламаваныя юрысты, якія маюць 1—2 гады вопыту практычнай працы па спецыяльнасці, могуць браць удзел у міжнароднай праграме для юрыстаў з Бельгіі, Францыі, Вялікабрытаніі, Люксембурга, Галандыі, краін Паўночнай Амерыкі, Расійскай Федэрацыі, Беларусі, Украіны, Польшчы, Японіі, Паўднёвай Карэі і Турцыі.

Стыпендыяльная міжнародная праграма прапаноўвае маладым журналістам, якія маюць вопыт практычнай працы па спецыяльнасці, магчымасць павышэння кваліфікацыі ў Журналісцкім каледжы Свабоднага універсітэта Берліна. Журналісты атрымаюць магчымасць актывізаваць міжнародныя сувязі, браць удзел у працэсе ўзаемнага абмену ведамі.

У стыпендыяльных праграмах DAAD могуць браць удзел студэнты і супрацоўнікі ВНУ і навукова-даследчых устаноў Беларусі. Гэтае правіла не распаўсюджваецца на магістарскія праграмы і праграмы павышэння кваліфікацыі.

Афіцыйныя кансультацыі па праграмах DAAD пачынаюцца з 13 верасня.

Дадатковую інфармацыю па ўсіх відах стыпендый можна атрымаць па тэлефоне ў Мінску: **232-50-55.**

**Вольга АСІПЕНКА.**

## На Усходніх могілках Мінска ўсталяваны помнік беларускаму журналісту Ігару Герменчуку

*Усталяваны помнік на магіле вядомага беларускага журналіста, галоўнага рэдактара газеты "Свабода" Ігара Герменчука (1.01.1961—29.04.2002), пахаванага на Усходніх (Маскоўскіх) могілках Мінска. Аўтарамі помніка з'яўляюцца архітэктар Лявонцій Зданевіч і скульптар Канстанцін Селіханаў.*

Як паведаміў БелаПАН Л.Зданевіч, кампазіцыя выраблена з цёмна-шэрага габра і бронзы. "Мы хацелі стварыць просты, строгі і сур'ёзны помнік чалавеку, які з'яўляецца гістарычнай асобай. Вось чаму ў кампазіцыі прысутнічае элемент манументальнасці", — сказаў архітэктар.

У аснове помніка — расколатая надвое пліта, што сімвалізуе жыццё і смерць чалавека. У дыяганальным разрыве пліты — зямля для кветак, якія сцвярджаюць перамогу жыцця над смерцю, і вертыкальная стэла з імем, прозвішчам, датамі жыцця і смерці журналіста, а таксама выява крыжа на фоне бел-чырвона-белага сцяга.

"Я вельмі любіў Ігара Герменчука, які быў сапраўдным патрыётам, вылучаўся шчырай грамадзянскай пазіцыяй і вельмі прыгожа гаварыў па-беларуску, — сказаў Л.Зданевіч. — Ён быў вясёлым чалавекам, які нават да сваіх палітычных апанентаў ставіўся з павагай і з такім гумарам, што яны не маглі яго не паважаць. Вось чаму ў бюсце мы спрабавалі перадаць вобраз годнага чалавека з усмешкай і высока ўзнятай галавой".

Побач з помнікам устаноўлена невялікая лавачка. "Павернуты ў яе бок бюст стварае адчуванне дыялогу, які ўсё сваё кароткае жыццё вёў з людзьмі Ігар Гермянчук", — зазначыў Лявонцій Зданевіч.

**Марат ГАРАВЫ.**
**Фота Андрэя ЛЯНКЕВІЧА.**



ПРОГНОЗ

# Каждому второму по мобильнику?

**Ольга ТОМАШЕВСКАЯ**



Количество абонентов мобильной связи в Беларуси стремительно увеличивается, приближаясь к 2 млн. человек, а конкуренция между компаниями-операторами обостряется. В конце прошлого года совокупная абонентская база всех операторов достигла 1 млн. человек, а к 1 сентября текущего года она составила 1 млн. 865 тысяч. Только за август 2004 года владельцев мобильников в нашей стране стало больше на 123 тысячи человек.

Эксперты прогнозируют, что компании-операторы будут стремиться к удешевлению услуг для дальнейшего расширения абонентской базы. При этом цены на межсетевые звонки, скорее всего, не будут снижаться. Эти тенденции, вероятнее всего, сохранятся и после появления третьего оператора сотовой связи стандарта GSM на белорусском рынке.

Аналитики отмечают, что введение компанией Velcom нового тарифного плана "Легкий", в котором абонентская плата составляет всего 2100 рублей (в нее включены 10 минут внутрисетевых разговоров), является знаковым событием. Операторы, вводя демократичные тарифы, стремятся привлечь в свои клиенты новые слои населения, ориентируясь на тех, кто раньше не мог позволить себе иметь мобильный телефон.

Конкуренция между операторами стандарта GSM в последнее время обострилась. Согласно данным на 1 сентября, МТС практически догнала Velcom по числу абонентов, сократив разрыв до 5 тысяч человек. К этой дате абонентская база Velcom превысила 900 тысяч человек, в то время как база МТС достигла 895 тысяч абонентов.

Прирост базы МТС в последнее время идет значительно быстрее, чем Velcom. Например, в августе к Velcom подключились более 40 тысяч пользователей, в то время как МТС зафиксировала рекордный для белорусского рынка приток новых пользователей — а именно 78 тысяч человек. Напомним, что несколько месяцев назад руководство МТС заявило о намерении в ближайшем будущем стать лидером на белорусском рынке сотовой связи.

Впрочем, комментируя для *"Белорусских новостей"* ситуацию на рынке, главный редактор информационно-аналитического сайта *onliner.by* **Виталий Шуравко** усомнился в том, что МТС сможет обогнать Velcom несмотря на небольшой разрыв между их абонентскими базами и более быстрый прирост абонентской базы.

*"В связи с тем, что Velcom на днях открыл новый массив на "тройку" и ввел тариф "Легкий", можно ожидать, что в скором времени произойдет резкий рост абонентской базы этого оператора. На сегодняшний день тариф "Легкий" — самое выгодное предложение на рынке. А потому не факт, что МТС сможет сравняться с Velcom"*, — сказал Шуравко.

Он также отметил, что на сегодняшний день компания МТС *"уже предприняла все шаги, которые были использованы на российском рынке. Можно ожидать, что теперь появятся новые инициативы, которых в России не было".*

Эксперт обратил особое внимание на то, что два действующих оператора GSM используют разную стратегию: *"МТС поэтапно вводит новые тарифы, выходя таким образом на новые сегменты рынка. После запуска "Джинса" эта компания вводит "Супер Джинс". У Velcom — другая стратегия, направленная на получение как можно больших доходов. Шаг с тарифом "Легкий" был предпринят вовремя. Компания наверняка зафиксирует резкий рост доходов, полученных за счет внесения платы при подключении".*

Как известно, 21 сентября должен состояться тендер по привлечению третьего оператора сотовой связи стандарта GSM. Как известно, не так давно белорусский президент заявил о том, что новым оператором может стать и стопроцентно государственная компания. С другой стороны, тендер не отменен, и, по последним данным, в нем намерены участвовать шесть иностранных компаний.

Некоторые эксперты считают, что новый оператор не сможет вписаться в белорусский рынок в связи с тем, что его емкость невелика. В Министерстве связи с таким прогнозом не согласны. На днях его глава **Владимир Гончаренко** сказал журналистам: *"Независимые эксперты, которые оценивали емкость нашего рынка, раньше называли цифру 3,5 млн. человек. Но это было еще в 1990-е годы. И они, я считаю, просто не знают наших людей. Мы думаем, что реальная база выше".* По мнению министра, сегодня емкость рынка составляет порядка 4,5 млн. абонентов. Судя по интересу крупных иностранных компаний к тендеру, они видят возможности завоевать определенный сегмент рынка.

С этим мнением согласен и Виталий Шуравко: *"Сегодня сотовой связью пользуются 18—20% населения. Возможно, на самом деле эта цифра несколько ниже, если учесть, что многие абоненты имеют карты двух операторов. Наверное, реальная цифра — приблизительно 15—18%. А значит, есть куда двигаться дальше. Высокодоходные абоненты уже разобраны, следовательно, будет вестись борьба за низкодоходных. Компании будут предлагать все более выгодные тарифы. И от их предложений во многом будет зависеть емкость рынка. Возможно, она достигнет и 50% населения. Динамика бурного прироста абонентской базы, который наблюдается в последнее время, может продолжиться и в будущем, по крайней мере в ближайшие год-два. Сейчас о спаде говорить не приходится — в августе МТС удалось подключить рекордное число абонентов".*

Как известно, во многих странах мира стоимость мобильной связи стала дешевле, чем обычной городской. К примеру, такая тенденция наблюдается в Литве, Латвии и Эстонии. *"Рано или поздно это будет и в Беларуси"*, — считает Виталий Шуравко.

Эксперт отметил, что компания "БелСел" уже сегодня применяет в тарифе "Диалог" бесплатные внутрисетевые звонки. Между тем "БелСел", чья база на сегодняшний день составляет более 65 тысяч абонентов, сегодня занимает небольшой сегмент рынка и фактически не участвует в жесткой конкурентной борьбе, которая развернулась среди операторов стандарта GSM.

Виталий Шуравко объясняет это тем, что большие базы Velcom и МТС сегодня работают на операторов. *"Чем больше абонентов в сети, тем больше подключается новых, поскольку внутрисетевые звонки дешевле. Именно по этой причине действующие операторы не стремятся снизить стоимость межсетевых звонков. Человек, который пользуется Velcom и звонит внутри сети, вряд ли перейдет на МТС. И наоборот. Межсетевые тарифы удерживаются сознательно, чтобы абоненты не мигрировали".*

*("Белорусские новости".)*

